# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 2 (933) ГОД XIX БЕЛАСТОК 13 СТУДЗЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

Скачок у будучыню

# ТОСТ

Мой швагер багацейшы за мяне. Мае выгадную кватэру, уласную таксоўку, дыплом магістра інжынера і маю сястру з вышэйшай адукацыяй. І жыве ён у багацейшых старонках, бо ў Познані.

А я жыву ля Гайнаўкі, маю 10 га зямлі, каня, пяць кароў, 10—15 свіней і заўсёды забеганую жонку.

Сустрэліся мы ў час Каляд. Найперш аднак мне давялося цягнуць ад шашы яго „Шкоду" маім уласным „буланым". Толькі ля самай вёскі швагер загадаў, каб адчапіць ворчык, бо не гонар, гаварыў, аўсяным ходам, на вачах людзей імчацца. Затрубіў, закруціў і зноў па восі ў снег зарыўся. Зачэпліваючы паўторна свайго „буланага" да яго таксоўкі, я думаў пра „бедных" і „багатых". Нядаўна давялося мне прачытаць павучальную апрацоўку нашых спецыялістаў, якія разглядаюць напрамкі грамадска-гаспадарчага развіцця Беласточчыны да 1980 года, а ў некаторых выпадках і ў наступнай дзесяцігодцы. Беластоцкае ваяводства складае **сем і чатыры дзесятых** працэнта тэрыторыі краіны, але на гэтай зямлі жыве ледзь **тры і шэсць дзесятых** працэнта насельніцтва Польшчы. Нічога тады дзіўнага, што людзі, якія ніколі на вочы нашай Беласточчыны не бачылі, уяўляюць яе як суцэльны дрымучы лес, вось такая сабе Белавежская пушча, па якой адно толькі зубры ды ваўкі ганяюцца, як пры царах бывала. Мой швагер у нейкім сэнсе таксама належыць да іх ліку, хаця пабываў ужо ў Новым і Старым Беразове, бачыў Трасцянку, Нарву, Стары і Новы Корнін, Мора. А гэта ж вёскі не абы-якія!

— Чым ты хвалішся? — гаворыць мне швагер і, узяўшы ў рукі маю апрацоўку, тыцкае пальцам. — Глядзі: жыхары вашай Беласточчыны больш з'елі, чым напрадукавалі!

Я міжволі паглядзеў на наш святочны, багата застаўлены стол і прыемна мне стала ад думкі, што мая Ганулея так выдатна пастаралася. Хай бачаць, хай ведаюць, што мы не шкадуем! Дык хутчэй запрапанаваў тост, каб здаровы былі, шчаслівa і згодна жылі! А мой швагер сваё:

— Па эканоміі, браток, — кажа ён, — я быў моцны. А тут пішуць, што 3,6% вашага насельніцтва склала ў шкатулку нацыянальнага даходу не многа больш чым 20 мільярдаў злотых, што дае толькі 2,6% агульнадзяржаўнага нацыянальнага даходу. Таму і гавару, што вы тут больш з'елі, чым напрацавалі.

— Не ерундзі ты, Франэк, — гавару яму. — А калі з цябе такі ўжо грамацей, дык прачытай і далей.

— Прачытаў. Там пішуць, што кожны статыстычны жыхар Беластоцкага ваяводства ў 1970 годзе выпрадукаваў на 29% менш тавараў, чым сярэдні ў краіне...

— Гэта ўжо мінулы час! — знерваваўся я. — Цяпер наш нацыянальны даход, які мы будзем ствараць тут, на Беласточчыне, кожны год, аж да 1990 года, а магчыма і далей, будзе павялічвацца амаль на 8 працэнтаў і на нейкіх паўтара працэнта мае выпярэджваць сярэдні прырост нацыянальнага даходу для цэлай краіны. Такім чынам наш удзел у нацыянальным даходзе краіны павялічыцца ў чатыры і больш разы. Перад намі, браток, перспектывы! — разгарачыўся я. — І ў сельскай гаспадарцы, і ў прамысловасці, і ў развіцці арганізаванага турыстычнага руху. Маем добрыя ўмовы для гадоўлі кароў, бо лугоў у нас багата, для гадоўлі свіней, бо бульба ў нас дасканала расце. Маем уласны лес і добры пясок, гравій, жвір, гліну. Гэта ўсё выдатная сыравіна для прамысловасці: харчовай, мэблевай, будаўнічай. Да 1990 года кожная сям'я будзе ў нас мець уласнае памяшканне, дзеля чаго давядзецца нам пабудаваць звыш 200 тысяч кватэр. У асноўным — у гарадах. У вёсках — толькі 50 тысяч. Гэта ж падумаць: 200 тысяч кватэр! Гэта больш-менш чатыры такія гарады, як наш цяперашні Беласток! І жыць нам будзе намнога лягчэй, бо будзем больш зарабляць. У 1970 годзе сярэдняя заработная плата статыстычнага працаўніка ў дзяржаўным або спулдзельчым прадпрыемстве была на Беласточчыне на 13 працэнтаў ніжэйшай ад сярэдняга ўз-

(Працяг на стар. 5)



Завеяла дарожкі...

Фота Я. Цялушэцкага

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"



НАШЫ ІНТЭРВ'Ю




Нядаўна мы паведамілі аб выхадзе беларускіх казак, выбраных з запісаў М. Федароўскага („Diabelskie skrzypce"). Складальнікам кніжкі і перакладчыкам казак на польскую мову быў Аляксандр Баршчэўскі. З гэтай нагоды і гутарым сёння з ім.

**— Кніжка заварожвае нечаканым з'яўленнем, салiднымі памерамі і цудоўным выглядам. Ці можам тады гаварыць аб ёй як аб нармальнай з'яве?**

— І так, і не. Так таму, што беларускі фальклор адыграў у развіцці польскай рамантычнай літаратуры велізарную ролю. Калі да беларускай народнай творчасці адклікаліся Адам Міцкевіч, Ян Чачот, калі цікавіліся ёю дзесяткі польскіх фальклярыстаў, дык чаму сучасны грамадзянін Польшчы не павінен ведаць яе? Думаю, што беларуская казка прадстаўляе для сучаснага паляка не меншую цікавасць, чым для паляка ў XIX ст. У гэтым аспекце „Чортавая скрыпка" — з'ява нармальная. Ненармальная яна ў тым сэнсе, што на працягу амаль двух стагоддзяў, лічачы ад пачатку XIX ст., калі пачаўся працэс збору беларускага фальклору, ніколі ў Польшчы не быў выдадзены такі тоўсты, як наш, том перакладаў народнай беларускай прозы. І тут „Чортавая скрыпка" — анармальнасць. На шчасце, анармальнасць станоўчая.

**— Які добры дух падказаў ідэю выдаць гэту кніжку?**

— Мабыць, восем гадоў таму назад Людовая спулдзельня выдаўнічая паінфармавала кафедру беларускай філалогіі аб тым, што выдала б пераклады беларускіх казак. Тады я быў перад дактаратам і не мог узяць на сябе такую сур'ёзную задачу. Пасля абароны доктарскай дысертацыі ў 1966

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ ХРОНІКА

■ 21 снежня адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта песеннага і тэатральнага конкурсаў БГКТ. Былі абмеркаваны дасягненні і недахопы гэтых конкурсаў у 1973 годзе, а таксама была выслухана інфармацыя аб падрыхтоўцы конкурсаў, якія адбудуцца ў лютым і сакавіку 1974 года. Прадбачваецца, што ў песенным конкурсе возьме ўдзел больш 180 асоб, а ў тэатральным — каля 30 калектываў. Члены арганізацыйнага камітэта многа ўвагі прысвяцілі справам, звязаным з выкарыстаннем лаўрэатаў конкурсаў на шматлікіх канцэртах, арганізаваных грамадскімі арганізацыямі. У гэтым пасяджэнні прымалі ўдзел Юліта Лапінская з ваяводскага праўлення ЗСМВ, Пётр Даніловіч з ваяводскага праўлення РСВ „Праса — Кніжка — Рух" і Рышард Мэлькэ з аддзела ВСС ў Беластоку.

■ 27 снежня камісія культуры ГП БГКТ пад кіраўніцтвам Антаніны Куны падрыхтавала на пасяджэнне прэзідыума ГП справаздачу аб дзейнасці БГКТ у 1972/73 культурна-асветным годзе і прыняла план працы на 1974 год.

■ 28 снежня пасяджэнне прэзідыума ГП было прысвечана наступным справам: а) ацэнцы дзейнасці БГКТ у культурна-асветным 1972/73 годзе. Між іншым сцвярджалася ў справаздачы, што ў гэты перыяд пад патранатам БГКТ дзейнічала 119 самадзейных калектываў, у тым ліку 63 тэатральных, 25 харавых і вакальных груп, 12 вакальна-музычных, 2 танцавальныя і 20 іншых калектываў. Культурна-асветную дзейнасць БГКТ праводзіла ў 186 культурна-асветных пляцоўках, у тым ліку ў 27 святліцах ОСП, 62 клубах „Руху", у 32 клубах селяніна і 43 школах, якія з'яўляюцца цэнтрамі культурнага жыцця.

У другім пункце пасяджэння прэзідыум ГП зацвердзіў план працы на першае паўгоддзе 1974 года. У ім многа ўвагі прысвячаецца заданням БГКТ у святкаванні 30-ай гадавіны Народнай Польшчы. Гэтую тэму будзе абмяркоўваць таксама пленарнае пасяджэнне ГП, якое адбудзецца ў лютым.

У сакавіку прэзідыум ГП будзе разглядаць справаздачу з закончанай справаздачнай кампаніі ў БГКТ, у красавіку — інфармацыю аб сітуацыі навучання ў школах беларускай мовы, а ў маі дасць ацэнку дзейнасці рэдакцыі „Ніва".

■ Пры сакольскім праўленні аддзела БГКТ арганізуецца тэатральны калектыў, які падрыхтуе беларускую п'есу і возьме ўдзел у тэатральным конкурсе БГКТ. Арганізатарам калектыву з'яўляецца сакратар аддзела Ірэна Місевіч.

■ У памяшканні ГП члены БГКТ горада Беластока добра бавіліся на традыцыйным навагоднім балі. У сваім кароткім выступленні старшыня ГП Мікалай Самоцік пажадаў шчаслівага Новага году.

(мх)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ПАРОДНЕНЫЯ ГАРАДЫ

У Сенегале адбыўся кангрэс пароднеиых гарадоў, які праходзіў пад дэвізам: „Зямля для людзей — ва ўмовах міру". Удзельнікі кангрэса прынялі зварот да народаў зямнога шара, у якім выказалі цвёрдае перакананне ў магчымасці ўстанаўлення працяглага і трывалага міру на зямлі.

Удзельнікі форуму пародненых гарадоў віталі прыняцце Генеральнай Асамблеяй ААН прапанаванай СССР рэзалюцыі аб скарачэнні ваенных бюджэтаў дзяржаў — пастаянных членаў Савета Бяспекі ААН на 10 працэнтаў і аб выкарыстанні часткі сэканомленых сродкаў на аказанне дапамогі краінам, якія сталі на шлях развіцця.

На заключным пасяджэнні кангрэса прынята рашэнне аб стварэнні савета прэзідэнтаў сусветнай федэрацыі пародненых гарадоў.

### ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА ЗША

У канцы мінулага года дзяржаўны сакратар Г. Кісінджэр выступіў з заявай аб выніках 1973 года ў галіне палітыкі ЗША.

Ён заявіў, што 1973 год характарызаваўся працягам працэсу разрадкі напружанасці. Гэты працэс прывёў да серыі перагавораў, у тым ліку аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў, аб узаемным скарачэнні ўзброеных сіл і ўзбраенняў у Еўропе.

Курс на разрадку напружанасці выявіўся ў пагадненні аб прадухіленні ядзернай вайны і ў абмене думкамі паміж прэзідэнтам Р. Ніксанам і Генеральным сакратаром ЦК КПСС Л. Брэжневым.

Разрадка напружанасці, сказаў дзяржаўны сакратар, не грунтуецца на сумяшчальнасці ўнутраных сістэм краін. Мы ўсведамляем, што ідэалы і ідэалогія Савецкага Саюза і ЗША процілеглыя і часам варожыя. Але мы гаворым, што існуе карэннае змяненне ў міжнароднай абстаноўцы ў параўнанні з любым іншым папярэднім перыядам.

Значная частка выступлення была прысвечана развіццю энергетычнага крызісу. Дзяржаўны сакратар заявіў, што цяжкасці будуць узрастаць, і ў гэтых адносінах энергетычны крызіс, магчыма, з'яўляецца толькі прадвеснікам аналагічных цяжкасцей у іншых галінах.

### ЗДЗЕЛКА?

Намеснік міністра замежных спраў Таіланда Ч. Чунхаван, які вярнуўся з паездкі ў КНР, паведаміў, што ў Пекіне ён дасягнуў дагаворанасці аб закупцы Таіландам ў КНР 50 тысяч тон дызельнага паліва. Ён сказаў, што гэта гаручае будзе пастаўлена Кітаем па „дружалюбнай зніжанай" цане.

Эмбарга арабскіх краін на продаж нафты ЗША і іх бліжэйшым саюзнікам, якія занялі праізраільскую пазіцыю ў час блізкаўсходняга канфлікту, адбілася на забеспячэнні гаручым Таіланда.

Як вядома, на тэрыторыі гэтай дзяржавы знаходзіцца шэраг амерыканскіх ваенных баз.

Услед за рашэннем арабскіх краін Пекін прапанаваў Таіланду свае нафтапрадукты. (ак)



## БССР

### ПАРТЫЙНЫ ФОРУМ

Пад канец снежня мінулага года адбылося XII пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі. Было яно прысвечана абмеркаванню вынікаў снежаньскага (1973 г.) пленума Цэнтральнага Камітэта КПСС. З апублікаваных матэрыялаў вынікае, што пленум ЦК КПБ цалкам і поўнасцю адабрае дзейнасць ЦК КПСС і яго Палітбюро па ажыццяўленню рашэнняў XXIV з'езду партыі ў галіне ўнутранай і знешняй палітыкі, а таксама палажэнні і вывады, якія змяшчаюцца ў выступленні тав. Л. І. Брэжнева на гэтым пленуме.

Пленум ЦК КП Беларусі адзначае, што за тры гады цяперашняй пяцігодкі даход у БССР павялічыўся на 27,7 працэнта, гэта значыць — на 2 працэнты больш, чым планавалася. Аб'ём прамысловай вытворчасці вырас на 35 працэнтаў, а прадукцыйнасць працы — на 23%

Значная работа была праведзена па паскарэнню навукова-тэхнічнага прагрэсу. Асвоена больш чым 600 новых відаў машын, прыбораў і абсталяванняў, укаранёна звыш 1200 паточна механізаваных і аўтаматычных ліній, комплексна механізаваны і аўтаматызаваны 522 цэхі і ўчасткі. Найбольш высокімі тэмпамі развіваліся энергетыка, хімічная, нафтахімічная і паліўная прамысловасці, металаапрацоўка.

У калгасах і саўгасах асноўныя вытворчыя фонды за тры гады пяцігодкі ўзраслі на 36 працэнтаў. Прадукцыйнасць працы павысілася там амаль на 24 працэнты. Ураджайнасць збожжавых культур у 1973 годзе склала ў БССР больш чым 22 цэнтнеры.

### УНІКАЛЬНАЯ АЎТАМАТЫЧНАЯ ЛІНІЯ

Магілёўскі завод „Строймашына" асвоіў прадукцыю унікальнай аўтаматычнай лініі па вытворчасці шасціметровых асбестава-цэментавых труб дыяметрам ад 200 да 500 міліметраў. Новы агрэгат будзе выпускаць 1 800 кіламетраў труб у год. Гэтыя трубы ў чатыры разы таннейшыя ад металічных.

### СЯЛЯНЕ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Трэці год пяцігодкі прынёс працаўнікам сельскай гаспадаркі Мінскай вобласці добрыя вынікі. Сабралі яны звыш 23 цэнтнераў збожжа з гектара, павялічылі валавы збор іншых культур. Перавыкананы планы нарыхтовак прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі. За дасягнутыя поспехі каля чатырох тысяч перадавікоў сельскай гаспадаркі Мінскай вобласці ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, а лепшыя з лепшых удастоены звання Герой Сацыялістычнай Працы.

### ДА ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

Дзяржаўны Камітэт Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю зацвердзіў план выпуску літаратуры выдавецтвамі рэспублікі да 30-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 30-годдзя перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. У плане значыцца звыш сарака назваў друкаванай прадукцыі. Чытачам прапануюцца зборнікі „Чырвонасцяжная Беларуская ваенная акруга", „У баях за Беларусь", „За цябе, Беларусь" і іншыя. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### З НОВЫМ ГОДАМ

І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк з выпадку Новага года выступіў перад мікрафонамі радыё і тэлевізіі з навагоднімі пажаданнямі ўсім людзям працы. Кіраўнікі партыі і дзяржавы наведалі таксама гуту „Варшава", дзе сустрэліся з рабочым калектывам, а Э. Герэк перадаў усяму рабочаму калектыву навагоднія пажаданні з просьбай працаваць яшчэ лепш. Наведалі таксама будову Лазенкоўскай трасы ў Варшаве.

### СУАДНОСІНЫ ПОЛЬШЧА — ГДР

Па запрашэнню прэм'ера П. Ярашэвіча з візітам у Польшчы пабываў прэм'ер ГДР Хорст Зіндэрман. Размовы двух прэм'ераў адбыліся ў мясцовасці Пшэлазы ў Зялёнагурскім ваяводстве. Візіт гэты адбыўся ў рамках перыядычных сустрэч і кансультацый паміж урадамі двух дзяржаў.

### ПАДПІСАННЕ ПРАТАКОЛА

У Варшаве быў падпісаны пратакол паміж Польшчай і ГДР на 1974 год аб узаемным абароце тавараў і паслуг. Пратакол гэты падпісаны да шматгадовага дагавора, які існуе паміж абедзвюма дзяржавамі на гады 1971—75. Пратакол прадбачыць пашырэнне тавараабароту ў 1974 годзе на 14 працэнтаў.

### УРАДАВАЯ ПРАГРАМА АШЧАДНАСЦІ

Урадавая праграма ашчаднасці, абавязваючая ў новым годзе, датычыць ашчаднасці паліва, энергіі, сыравіны і матэрыялаў. Мэта праграмы — запэўніць рытмічнасць у рэалізацыі гаспадарчых планаў ў перыяд узросту цэн нафты на Захадзе Еўропы і цяжкасцей з імпартам некаторых матэрыялаў і сыравін.

### ЗІМОВЫЯ КАНІКУЛЫ

3 мільёны дзяцей і моладзі адпачывала ў рознага роду лагерах, арганізаваных на час зімовых канікул. Многа дзяцей з вёсак адпачывала ў гарадскіх лагерах.

### ГОСЦІ З АЎСТРЫІ

Па запрашэнню Сейма ПНР з візітам у Польшчу прыехала дэлегацыя парламента Аўстрыі.

### „ЗАМЭХ"

„Замэх" у Эльблонгу — гэта адзіны ў краіне прадуцэнт энергетычных турбін. Дагэтуль ён прадукаваў турбіны моцы 200 MW. Цяпер распачаў таксама прадукцыю турбін 360 MW.

### ШТОРАЗ ХУТЧЭЙ

Штораз хутчэй будуюцца ў нас вялікія прамысловыя аб'екты. У кастрычніку гэтага года ў Астралэнцы распачне працу вялікая фабрыка мяса, якая будзе пабудавана за 28 месяцаў.

### ДЛЯ СССР

Польскія суднабудаўнічыя верфі пабудавалі дагэтуль 600 параходаў для СССР. Найбольш, бо аж 65 працэнтаў суднаў для СССР было пабудавана на Гданьскай суднабудаўнічай верфі імя Леніна. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### БАЛЬ ПЕРАДАВІКОЎ

У навагоднюю ноч у Беластоку, у будынку Медыцынскай акадэміі адбыўся вялікі навагодні баль перадавікоў працы, людзей, якія ўнеслі найбольшы ўклад у развіццё нашага рэгіёну і горада. З навагоднімі пажаданнямі выступіў на балі І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі. Навагоднія балі адбыліся таксама ў шматлікіх клубах, святліцах, на прадпрыемствах.

### ЛІСТЫ ЦК І ВК

У першы працоўны дзень Новага года на найбольшых нашых прамысловых прадпрыемствах адбыліся сустрэчы партыйна-гаспадарчага актыву. На сустрэчы ў ФПіУ II сакратар ВК партыі Ул. Юшкевіч перадаў калектыву фабрыкі лісты ЦК ПАРП і экзекутывы ВК, падпісаныя Э. Геркам і З. Куроўскім, у якіх выражаецца падзяка за добрую працу ў старым годзе і перакананне, што і ў новым годзе фабрыка будзе актыўна ўдзельнічаць у маршы да прагрэсу і дабрабыту. Такая ж урачыстасць адбылася ў Фастах, дзе віншавальныя пісьмы ЦК і ВК ПАРП уручыў тэкстыльшчыкам сакратар ВК М. Недзведзь.

### ЗАКЛІК

Дэлегаты на X ваяводскую справаздачна-выбарную канферэнцыю ЗМС, якія сустрэліся ў ВК партыі, выступілі з заклікам да ўсіх членаў Саюза сацыялістычнай моладзі Беласточчыны ўзмоцніць вытворчую і грамадскую актыўнасць напярэдадні X ваяводскай канферэнцыі ЗМС, якая адбываецца на парозе 1974 года, года 30-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі. У закліку гаворыцца аб павелічэнні прадукцыі, павышэнні кваліфікацыі і агульных ведаў моладзі. Першымі адгукнуліся на заклік ЗМС-аўцы з Фаст. Іх арганізацыя абавязалася ўзяць патранат над змяншэннем адпадаў ў белай ткальні. У мінулым годзе дзякуючы патранату ў каляровай ткальні ўдалося дабіцца 600 тыс. зл. ашчаднасці.

### ДАСЯГНЕННІ БУДАЎНІКОЎ

Добра закончылі план мінулага года будаўнікі з Беластоцкага будаўнічага аб'яднання. На планаваныя 1250 млн. злотых будаўнікі выканалі працу, вартасць якой 1300 млн. зл., і дабіліся 18-працэнтнага ўзросту прадукцыі ў параўнанні да папярэдняга года. Асабліва добра працавалі будаўнікі элцкага, бельскага і аўгустоўскага прадпрыемстваў. Галоўная ўвага будаўнікоў гэтага прадпрыемства ў мінулым годзе была накіравана на будаванне аб'ектаў службы здароўя, школьных будынкаў і жылых дамоў.

### НОВЫ ДОМ АДПАЧЫНКУ

У Борках каля Аўгустова пабудаваны новы цэнтр падрыхтоўкі кадраў і адпачынку Саюза сацыялістычнай моладзі. У будынку 80 месц у адна- і двухасабовых пакоях. Кошт будовы — 15 мільёнаў злотых. Значная частка будаўнічай работы, нават спецыялістычнай, зроблена моладдзю ЗМС грамадскім чынам. Першыя госці прыедуць сюды ў лютым на курс маладзёжнага актыву. (яч)




**Niedziela — 13.I.**
7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.05 Przypominamy, radzimy. 8.15 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.55 Program dnia. 9.00 „Teleranek". 10.20 „Robinson Warszawski" („W starym kinie"). 11.20 Antena. 11.35 Koncert popularny. 12.20 Dziennik. 12.35 „Od Angkoru do Ajutji" — film dok. franc. („Czas i ludzie"). 13.30 Przemiany. 14.00 Dla dzieci: „Strofy na cześć misia o bardzo małym rozumku". 14.25 „My 74" — teleturniej. Walczą Koszalin i Opole. 15.30 PKF. 15.40 Losowanie Toto—Lotka. 15.55 Poezja Polska: Bolesław Leśmian „Dziewczyna". 16.05 TV Koncert Życzeń. 16.40 Tele-Echo. 17.25 „Amazonia" — cz. II — odc. IV filmu S. Szwarc-Bronikowskiego z Ameryki Południowej. 18.05 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Przeprawa" — film TVP — odc. IV. („Czarne chmury"). 21.10 Interclub — Budapeszt. 22.10 Informacyjny Magazyn Sportowy. 22.40 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek — 14.I**
12.45 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 38. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 23. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Echo stadionu. 17.55 TV Kurier Białostocki. 18.10 Oferty. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV — Stefan Żeromski — „Uciekła mi przepióreczka". 21.45 „Gra orkiestra z czterech estrad". 22.30 Dziennik.

**Wtorek — 15.I.**
8.10 „Banda Rawlinga" — seryjny film ameryk. „Strzały w Dodge City". 9.00 Dla szkół: Język polski — kl. V, H. Sienkiewicz „Janko Muzykant". 9.30 „Spotkania wileńskie" — dokum. film bułgarski. 10.00 Dla szkół: Język polski kl. II lic. J. Słowacki — „Fantazy". 15.20 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 28. 15.55 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 23. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: Anna Chodorowska „Urodziny lwa", widowisko lalkowe. 17.05 Wartość naszej pracy. 17.15 „Rodzina Durtolów" — odc. 17 ser. filmu franc. 17.40 „Spotkanie z Ernestem Bryllem". 18.10 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.30 Klub Sześciu Kontynentów. 19.05 Wartość naszej pracy. 19.15 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Banda Rawlinga" — ser. film ameryk. 21.05 Interstudio. 21.35 „Groteski muzyczne". 22.10 Wartość naszej pracy. 22.20 Dziennik. 22.35 Wiadomości sportowe.

**Środa — 16.I.**
9.00 Dla szkół: Fizyka — kl. VI. 9.30 Film fab. 10.50 „Kamienne ślady" — dokum. film NRD. 12.00 Dla szkół: Historia — kl. VIII — Bagnet na broń. 12.45 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — lekcja 15. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 17. 14.40 Politechnika TV — kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Czary i zabobony" („Obyczaje"). 17.10 „Oj, Dzikowianie jadą". 17.30 Losowanie Małego Lotka. 17.40 Informacje — Towary — Propozycje. 17.50 Dialogi historyczne. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Tematy znad Wisły — „Pan Karol z kamerą" — cz. II. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Film fabularny. 22.15 Kontakty. 22.45 Śpiewa Henri Des. 23.25 Dziennik. 23.40 Wiadomości sportowe i sprawozdanie z turnieju w koszykówce.

**Czwartek — 17.I.**
9.00 Dla szkół: Język polski — kl. I lic. „Poezja XVII wieku". 9.30 „Ostatnia gra Karima" — film fab. radziecki. 11.05 Dla szkół: Język polski — kl. VII „Juliusz Słowacki". 11.40 „Sandor Bortnyk — portret malarza". 13.30 TV Kurs Informatyki — Sterowanie produkcją samochodów. 14.00 Matematyka w szkole — Dodawanie i odejmowanie w zakresie stu. 15.10 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — lekcja 15. 15.45 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 17. 16.15 Program dnia. 16.20 Giełda postępu technicznego. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.45 PKF. 17.55 „Parada Zespołów Artystycznych Wojska Polskiego". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Poligon. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Ostatnia gra Karima" — fab. film radziecki. 21.50 „To nie były żarty". 22.50 Dziennik. 23.05 Wiadomości sportowe i sprawozdanie z turnieju koszykówki.

**Piątek — 18.I.**
10.05 „Przeprawa — IV odc. ser. filmu TVP „Czarne chmury". 11.05 Dla szkół: Wychowanie obywatelskie — kl. VII — Wzorowa ekspedientka. 11.35 „Dwa miasta" — dokum. film rumuński. 12.00 Dla szkół: Przysposobienie obronne — kl. VIII i I lic. 12.45 TV Technikum Rolnicze — Język polski (powtórzenie wiadomości). 13.25 TV Technikum Rolnicze — Chemia (powtórzenie wiadomości). 14.40 Politechnika TV — kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Wychowanie fizyczne — receptą na zdrowie. 17.45 Tygodnik Informacyjny Młodych, Dwie szkoły — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Program oświatowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Podróż w jedną stronę" — film estrad. TVP. 20.55 Panorama. 21.35 Teatr TV: „Obcy przyszedł na farmę". 23.05 Informacje — Towary — Propozycje. 23.15 Dziennik. 23.30 Wiadomości sportowe.

**Sobota — 19.I.**
9.00 Dla szkół: Geografia — kl. V. „W tundrze i tajdze". 10.00 Dla szkół: Zoologia — kl. VII „Mięczaki". 10.30 „Moby Dick" — fab. film ameryk. 14.20 TV Technikum Rolnicze Język polski (powtórzenie wiadomości). 14.55 TV Technikum Rolnicze. Chemia. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.15 Antena. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Niezwykły mecz" — film. 17.00 Dla młodzieży: Krystyna Berwińska „Próba". 18.15 Nie tylko dla pań. 18.35 „Godzina Orfeusza" — mag. muz. nr 48. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Moby Dock" — fab. film ameryk. 22.05 Dziennik. 22.25 Wiadomości sportowe. 22.35 „Canzonissima".




**Piątek, 11 stycznia**
9.15 Wielka miłość Balzaka. 6 seria. 14.35 Program dnia. 15.40 Wiersze K. Bujło. 16.00 Panorama nowin. 16.15 Film fab. 17.20 Koncert życzeń. 18.00 Wielka miłość Balzaka. 7 seria.

**Sobota, 12 stycznia**
8.45 Ekran i czas. 9.45 Wielka miłość Balzaka. 7 seria. 12.15 Muzyka dziś. 14.00 Program sportowy. 14.45 Filmy animowane. 15.15 Puchar ZSRR w jeździe figurowej na lodzie. 16.00 Panorama nowin. 16.15 W świecie zwierząt. 17.15 Błękitny płomyk. 19.00 Czas. 19.30 c. d. Błękitnego płomyka.

**Niedziela, 13 stycznia**
7.00 Program dnia. 9.00 Spektakl muzyczny. 10.00 Kiosk muzyczny. 10.50 Białe i czarne. 11.30 Film fab. 13.30 Koncert życzeń. 14.00 Panorama międzynarodowa. 14.30 Filmy animowane. 15.00 Puchar ZSRR w jeździe figurowej na lodzie. 17.00 Klub filmowy. 18.00 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.30 c. d. spektaklu. 21.10 Puchar ZSRR w siatkówce.

# 50-АЙ ГАДАВІНЕ КПЗБ

Гэтай гадавіне ў Гайнаўцы 15 снежня 1973 года была прысвечана папулярна-навуковая сесія, арганізатарам якой быў Гайнаўскі агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання. Зала кіно дома культуры „Ляснік" была перапоўнена моладдзю і настаўнікамі сярэдніх школ, прадстаўнікамі партыйных і адміністрацыйных улад, прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый.

У прэзідыуме — гаспадары сесіі — вучні беларускага ліцэя, а ў першых радах — былыя члены КПЗБ і прадстаўнікі ўлад. Вядучы сесію, вучань IV класа беларускага ліцэя Янка Сапежка, пасля кароткага ўступнага слова, запрашае выступіць дырэктара ліцэя Уладзіміра Сцепанюка. Пасля прамовы дырэктара, які падкрэсліў ролю і значэнне рэвалюцыйнай дзейнасці КПЗБ на Беласточчыне, ліцэісткі паднеслі кветкі былым КПЗБ-оўцам — Кастусю Кату з Махнатага, Аляксандру Ляху з Белавежы, Уладзіміру Галёнку з Дубінаў, Антону Турыку з Горнага, Паўлу Трашчотку і Міхасю Баўтрамюку з Навасадаў, Максіму Скаруку і Лукашу Леўчуку з Гайнаўкі.

Затым выступіла вучаніца ліцэя Зінаіда Лукша з дакладам аб арганізацыйнай структуры КПЗБ у былым Бельскім павеце, у склад якога ўваходзілі тады Гайнаўшчына і цяперашні Сямяціцкі павет. Даўжэй затрымоўваецца яна на дзейнасці камітэтаў і ячэек КПЗБ, якія існавалі ў межах сённяшняга Гайнаўскага павету, гаворыць аб людзях, аб газетах і лістоўках, аб выданнях КПЗБ „Лесаруб у барацьбе" і „Чырвоная Гайнаўка", гаворыць аб арыштах правадыроў партыі і аб здзеках над імі, аб санацыйных канцлагерах і турмах.

З другім дакладам выступіла вучаніца Галена Мікалаюк. Паказала яна, што рэвалюцыйныя выступленні беластоцкіх тэкстыльшчыкаў, рабочых Гайнаўкі і Белавежскай пушчы — забастоўкі, дэманстрацыі і сутычкі з паліцыяй — адбываліся пад кіраўніцтвам КПЗБ, што КПЗБ узначальвала барацьбу супраць падаткаў, шарваркаў, нацыянальнага прыгнёту, за школу на роднай мове, за вызваленне палітычных вязняў, што пад кіраўніцтвам КПЗБ у 1925—27 гадах дзейнічала 100-тысячная рэвалюцыйна-дэмакратычная і нацыянальна-вызваленчая арганізацыя Беларуская сялянска-рабочая трамада (БСРГ), а ў 1928—30 гадах — Беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб „Змаганне" і Таварыства беларускай школы (ТБШ).

Прысутныя на сесіі вельмі сардэчна, з бурай апладысментаў, прынялі выступленні былых КПЗБ-оўцаў Паўла Трашчоткі і Лукі Леўчука, якія расказвалі аб сваёй падпольнай дзейнасці, аб катаванні іх у турмах, аб замучаных сваіх сябрах, змагарах за свабоду.



Першы сакратар ПК ПАРП у Гайнаўцы Людвік Бартосяк выказаў шмат сардэчных слоў у адрас прысутных КПЗБ-оўцаў, звярнуўся да моладзі, каб яна вывучала гісторыю барацьбы з санацыяй, а пасля з нямецкай акупацыяй, каб ніколі не забывала, што на канве гэтай барацьбы вырасла Народная Польшча. Затым ён падзякаваў дакладчыкам за змястоўныя выступленні і дырэктару Уладзіміру Сцепанюку за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтых цікавых дакладаў.

Пасля папулярна-навуковай сесіі быў паказаны беларускі фільм „Чырвонае лісце", змест якога звязаны з гісторыяй КПЗБ.

Арганізатары сесіі падрыхтавалі таксама прыём для былых членаў КПЗБ, дзе з пажаданнямі ім добрага здароўя і доўгага жыцця выступілі дырэктар ліцэя Уладзімір Сцепанюк, сакратар ПК ПАРП Людвік Бартосяк, старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік і старшыня гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк.

**М. Хмялеўскі**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Азяраны Вялікія

Азяраны Вялікія — вёска ў адлегласці 10—12 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад мястэчка Крынкі Сакольскага павету, раскінулася на пагорку ўздоўж левага берага ракі Свіслачы (левага прытоку Нёмана). У Азяранах Вялікіх цяпер каля 35 гаспадарак і прыблізна 150 жыхароў.

Назва „Азяраны", праўдападобна, паходзіць ад слова „азярына", г. зн. „1. Старое рэчышча з вадой. 2. Шырокае і глыбокае месца на рацэ. 3. Лагчына, глыбокая яма, якая зарасла травой. 4. астатак старога рэчышча, якое яшчэ мае сцёк вады ў раку". (І. Я. Яшкін, Беларускія геаграфічныя назвы, Мінск 1971, стар. 11). Рака Свіслач у гэтых мясцах мае звілістае русло, а ў яе даліне знаходзіцца шмат рэштак старых рэчышчаў. Другая частка назвы („Вялікія") з'яўляецца, мабыць, спосабам для адрознення гэтай мясцовасці ад суседняй вёскі — Азяранаў Малых.

Мясцовыя назвы пагоркаў: Міляціна Гара, Высокія Горы, Хіхлік, Крыжыэ: палеткаў: Маргіе, Пад Крушынцамі, Пад Малымі (Азяранамі); лугоў і балотаў: Пазасценнікі, Маргіе, Аселіца (каля вёскі).

Некаторыя прозвішчы жыхароў: Аніська, Кандратовіч, Кішкель, Курцэвіч, Панасюк, Піхнюта, Радэль, Стадольнік, Шалкевіч, Чарнамысы, Яшчык.

Азяранскі старажыл Павел Цітко (1899 года нараджэння) паведаміў, што вёску Азяраны Вялікія навакольныя жыхары называлі раней „стралецкай вёскай", а азяранцаў — „стральцамі".

Існуе легенда, што „стралец", які даў пачатак вёсцы, жыў на Міляцінай Гары. Яшчэ і цяпер на гэтым пагорку ляжыць каменне — рэштка колішняй пабудовы. Пад Хіхлікам знаходзіцца праваліўшаяся пад зямлю царква. Калі ў святочны дзень у час абедні прыкласці вуха да гэтага пагорка, можна пачуць гудзенне царкоўных званоў.

„Нялёгкае было калісьці жыццё азяранцаў. Пры царызме, маючы ўсяго 11 год, хадзіў я на работу ў гарбарню ў Крынкі, — успамінае П. Цітко. — Працаваў ад цямна і да цямна, спаў там жа. Праца была цяжкая — шмараваў скуру алівай. Спачатку ўласнік гарбарні плаціў адзін рубель, потым павысіў заработкі да паўтара, а ў канцы да двух рублёў у тыдзень. Ноччу з суботы на нядзелю прыходзіў дадому па харчы і ў ноч з нядзелі на панядзелак зноў ішоў пяшком у гарбарню, каб на досвітку стаць да работы".

П. Цітко прыпамінае, што ў рэвалюцыю 1905 года, у часе Крынкаўскага ўзброенага паўстання гарбароў, восем хлопцаў з Азяранаў Вялікіх, якія працавалі ў крынкаўскіх гарбарнях і прынялі ўдзел у паўстанні, былі арыштаваны і сядзелі доўгі час у турме ў Крынках. Аднаму з іх перад арыштам удалося схавацца і нелегальна выехаць у Амерыку.

Пры царызме і ў міжваенны час азяранцы займаліся таксама сплавам дрэва па рацэ Свіслачы. Пачыналі сплаў у Зялёнай, за Бераставіцай, і гналі асобнымі калодамі аж да Нёмана. Падрадчыкі плацілі людзям 50 капеек за дзень працы пры сплаве.

„Калі азяранцы вярнуліся з бежанства, — расказвае Канстанцін Семяняка, — дык куплялі лес каля Спорнай Дачы, за Мастаўлянамі, і гналі яго да Азяранаў. Тут на бродзе Пярэбітка выцягвалі на бераг. Амаль уся вёска пабудавалася тады з таго дрэва. Займаліся людзі таксама вырабам калёс, вузалаўкаў, лавак і іншых частак да вазоў, рамаў да боранаў, плялі палукашкі, рабілі „абіякі" (абутак на драўлянай падэшве, абабіты рэменем), збожжа малолі ў жорнах, крупу таўклі ў ступах, сечку рэзалі ў „лядзе" (ручная сячкарня з касы)".



*Летам вуліца ў Азяранах Вялікіх тоне ў зелені прысадаў.* *Фота аўтара*

У часе акупацыі ў вёску наведваліся савецкія партызаны.

Сёння Азяраны Вялікія маюць спажывецка-прамысловую краму, рамізу на супрацьпажарныя прылады, правадную радыёфонію. Праводзіцца тут цяпер электрыфікацыя, і сяляне спадзяюцца, што да восені ў іх загарыцца электрычнае святло. З Крушынянаў у Ласіняны пракладваецца новая дарога, магчыма, што яна дойдзе і да Азяранаў.

Маладое пакаленне азяранцаў ахвотна горнецца да ведаў. З гэтай вёскі паходзіць шэраг людзей, якія закончылі сярэднія і вышэйшыя школы і цяпер працуюць у розных галінах народнай гаспадаркі і культуры. Напрыклад, у сям'і Канстанціна Семянякі сын Францішак з'яўляецца навуковым працаўніком Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку, другі сын, Станіслаў — настаўнікам, дачка Ірына нядаўна закончыла эканамічны ліцэй.

Высокія ўраджаі і добрыя вынікі ў гадоўлі маюць цяпер многія азяранцы, але найбольш выдатныя дасягненні ў гаспадарцы маюць Сцяпан Цітко і яго сын Яўгень (прадаюць у год па 20 кормнікаў, маюць пасеку, сельскагаспадарчыя машыны), Міхал Кулакоўскі (таксама добрая гадоўля, высокія ўраджаі на палях, многа машын, сам адмысловы сталяр) і іншыя.

Хоць і адлеглы ад свету гэты куток, Азяраны Вялікія, але працавітыя і сардэчныя жывуць там людзі.

**М. Гайдук**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**КАРУСЬ КАГАНЕЦ — ЧАСТКА VI**

**Публіцыстыка.** Публіцыстычная творчасць Каруся Каганца — гэта найменш вывучаная дзялянка дзейнасці пісьменніка. На жаль, і нам мала вядомы яго артыкулы. Праўдападобна, як публіцыст Каганец актывізаваўся ў перыяд Лютоўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый. Быў ён прыхільнікам поўнай незалежнасці Беларусі і ў гэтым духу пісаў артыкулы. Нам хацелася б затрымацца на адной публіцыстычнай рэчы Каганца, напісанай у перыяд „Нашай нівы". Маем на ўвазе яго „Прамову", якая займае пераходную пазіцыю паміж газетным артыкулам, мітынгавай прамовай, публіцыстычным маніфестам і нацыянальным плачам. У „Прамове" паявіліся рысы, якія былі характэрнымі і для прозы Каганца. Да гэтых рыс трэба перш за ўсё аднесці экскурсы ў гісторыю і эмацыянальныя патрыятычныя заклікі да чытачоў. „Прамова" па сутнасці ўтрымана ў рамантычным каноне. Рамантыкі вельмі часта ўслаўлялі мінулае, ганілі сучаснае, прапаведвалі шчаслівую будучыню. Гэты канон выступае і ў „Прамове" Каганца. Вось урывак з „Прамовы": „Гэй, хлопцы, браццямае, а сыны Зямлі Беларускай, каторая раскінулася ад Гродна да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася. Кіньце ўвокал вокам, сабярэце харашэнька думкі, ці павінна так быць, як цяпер ёсць?" (Дварчанін, Хрэстаматыя беларускай літаратуры, Вільна 1927 г. выпуск I с. 30).

Другім матывам, які знайшоў у „Прамове" сваё адлюстраванне, з'яўляецца матыў услаўлення рангу беларускай мовы ў мінулым і нараканне на тое, што многія беларусы пакідаюць родную мову ў сучасным. Вось яшчэ адзін урывак, які ўтрыманы ў стылі патрыятычнага ляманту і наракання: „Ці справядліва гэта — усяго, што сваё чурацца: і мовы свае, і звычаю свайго, і вопраткі свае? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была, і быў час, калі наша мова працвітала пры двары каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж вас больш, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваеннымі заслугамі". (Там жа с. 31).

Варта яшчэ звярнуць увагу на элементы перабольшвання, гіпербалікі ці нават гістарычнага фальшу ў „Прамове" Каганца. Прыкладам можа быць заканчэнне „Прамовы": „І на гэтай нашай зямлі спрадвеку нашы дзяды-прадзеды жылі, каторыя не раз грэкамі, немцамі і рымлянамі траслі... А мы?.. Мы — не знаю, хто мы такія..." (Там жа с. 31).

Вось тут і выявілася гэтая гіпербаліка. Гісторыя не пацвярджае думкі Каганца аб тым, што беларусы траслі грэкамі, рымлянамі ці немцамі. Значыць, пісьменнік сказаў няпраўду. Аднак на „Прамову" трэба глядзець не як на твор факталагічны, а толькі як на твор лірычны. Лірыка стварае вялікія магчымасці, немагчымае робіць магчымым, расшырае граніцы слова, дазваляе спалучыць фікцыю з праўдай. Гэтыя магчымасці і выкарыстаў Каганец у сваёй „Прамове".

У „Прамове", так як і ў іншых творах Каганца, выступілі характэрныя для гэтага пісьменніка стылістычна-моўныя пагрэшнасці. Вялікая колькасць паланізмаў, русізмаў, дыялектных слоў; неўласцівая беларускай мове стылістыка — усё гэта перашкаджае эмацыянальнаму ўздзеянню твора на чытача. Пры гэтым усім аднак адчуваецца шчырасць аўтара, яго эмацыянальнасць і ідэйнасць, яго гарачае імкненне да адраджэння беларускай нацыянальнай свядомасці і росту рангу роднай мовы. У беларускіх умовах такое імкненне пісьменніка павінна высока ацэньвацца.

# ВЫХАВАЎЧЫЯ ВЕЧАРЫ

Дзіцячае сэрца адкрыта на ўсё добрае. Вельмі рана ў дзіцяці ўзнікаюць парасткі пашаны, захаплення людзьмі і іх уменнем. І толькі даверам, толькі той жа пашанай да дзіцяці можна падтрымаць гэтыя парасткі, парасткі ўсведамлення чалавечай годнасці, дапамагчы ім вырасці і расквітнець. У працэсе выхавання дзіцяці велізарную ролю адыгрывае школа, настаўнікі, іх падыход да дзіцяці і да тых прадметаў, выкладчыкамі якіх яны з'яўляюцца.

Настаўніца васьмікласнай школы ў Луцэ Тамара Цыванюк ужо 19 год вучыць дзяцей беларускай мове. 19 год прывівае ім любоў да роднага слова, да беларускай кніжкі, да культуры. І робіць гэта ўмела, па-майстэрску, робіць так, што дзеці любяць гэты прадмет і з прыемнасцю прыходзяць не толькі на заняткі беларускай мовы, але таксама ахвотна раз у тыдзень збіраюцца на вечары беларускай кніжкі. А настаўніца Тамара Цыванюк чытае. Ды як чытае! Незвычайна, захапляюча, прыгожа.

У нас неяк павялося, што мы пераважна гаворым аб мастацтве пісьменніка, а даволі рэдка — аб мастацтве чытача. Нібы мастацтва чытаць раўназначна з асваеннем пісьменнасці. Не, гэта зусім не тое самае! Чытаць трэба ўмець, трэба ўмець узяць з кнігі ўсё, што яна, будучы творам мастацтва, можа даць: глыбіню думкі і пачуццяў, паэтычнае адкрыццё свету, жыцця, і ўсё тое, што пісьменнік уклаў у свой твор з думкай перадаць чытачу.

Тамара Цыванюк добра разумее (і аб гэтым гаворыць), што дзіця спешна праходзіць побач з багаццем, заключаным у кніжцы, нават не здагадваецца аб тым, што яно існуе. Яно бярэ з твора толькі ход падзей, толькі сюжэт: пераказ яго можна змясціць на старонцы школьнага сшытка. Такім чынам малы чытач бярэ вельмі мала з таго, што даны твор можа яму даць. „Глытальнікам кніг“ многае здаецца няважным — „проста апісанне прыроды“, „проста разважанні“.

А чытаючы беларускую кніжку, трэба дабіцца яшчэ і таго, каб школьнік палюбіў сваю родную мову, каб ніколі яе не цураўся, каб ведаў, што кожны народ павінен родную мову ставіць найвышэй.

Незабыўнымі сталі вечары для школьнікаў у Луцэ, калі яны слухалі „Палескіх рабінзонаў“ Янкі Маўра або кніжку „Ніколі не забудзем“. Аб сіле ўздзеяння гэтых вечароў сведчыць між іншым такі маленькі факт. Адзін з вучняў не выразіў згоды хадзіць на заняткі беларускай мовы і не хадзіў. Але ён прыходзіў на вечары цікавай беларускай кніжкі, і тут захапіла яго прыгажасць роднай мовы. Пазней ён папрасіў настаўніцу, каб дазволіла яму хадзіць на ўрокі беларускай мовы. І вучыцца ён цяпер ахвотна.

Вечары цікавай беларускай кніжкі ў Луцэ адыгрываюць вялікую выхаваўчую ролю, а Тамара Цыванюк з'яўляецца сапраўдным сяўцом дабра ў маладых сэрцах.

**Міхась Хмялеўскі**

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73“



*Удзельніцы фінальнага агляду Яўгенія Матранчук і Люба Лукашэвіч з Пяньковў Беластоцкага павету.*

*Фота А. Карпюка*

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### СПОРТ У ПАВЕЦЕ

Найбольш гурткоў ЛЗС дзейнічае ў Беластоцкім павеце. Членамі ЛЗС з'яўляецца 4 200 асоб, у тым ліку 1 400 дзяўчат. Найлепш працуюць гурткі ЛЗС у Дайлідах Гурных, Завадах, Агароднічках, Супраслі.

У Завадах гурток ЛЗС налічвае 53 члены, у тым ліку 20 дзяўчат. Найлепшых вынікаў дабіліся тут стральцы з лука. Лучніцтва мае сваю 13-гадовую традыцыю. Найбольш вядомымі стральцамі з лука з'яўляюцца Рыгор Зінкевіч, Галіна Корбут, Ян Троска, Веслаў Казімяровіч, Ірэна Назарук, Францішак Яжомбэк і Анна Бах. Рыгор Зінкевіч быў нават у складзе нашай нацыянальнай дружыны. Таленавітыя лучнікі не раз выступалі за наша ваяводства на агульнадзяржаўных спаборніцтвах. У групу лепшых стральцоў з лука ўпісалася двойка юных стральцоў: Галіна Корбут і Ян Троска.

У Агароднічках найлепш дзейнічае секцыя лыжнікаў. Маюць яны добрыя лыжы і спецыяльна падрыхтаваную лыжню для трэніроўкі. Секцыя лыжнікаў у Агароднічках — гэта адна з большых і найлепшых секцый у ваяводстве. Налічвае яна 49 асоб. Усе яны рыхтуюцца да агульнапольскіх зімовых спаборніцтваў. Трэнерам іх з'яўляецца Венчыслаў Пыжэўскі.

Члены ЛЗС — вучні тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі дабіліся добрых вынікаў у лёгкай атлетыцы, спартыўнай барацьбе і ў штанзе.

Сёлета асаблівым зацікаўленнем сярод юных ЛЗС-оўцаў цешыліся мотацыклетныя спаборніцтвы, футбол і турызм. Найбольш мерапрыемстваў адбылося ў гмінах Хорашч, Юхновец, Васількаў, Заблудаў і Супрасль. (ця)

## „РУХ“ аднаўляе КЛУБЫ

На Беласточчыне ёсць каля чатырохсот клубаў „Рух“. Асабліва добра служаць яны развіццю культурнага жыцця на вёсцы. Прадпрыемства „Рух“ намагаецца зрабіць усё, каб клубы былі больш прыгожымі і прасторнымі. Гэта ўсё для наведвальнікаў, якія сталі больш патрабавальнымі. Калі ўжо клуб „Рух“ — цэнтр культурнага жыцця, дык павінен быць у ім парадак, чысціня ды добрая культурна-асветная дзейнасць.

Прадпрыемства „Рух“ ліквідуе старыя кіёскі, каб на іх месца ставіць новыя, больш функцыянальныя, з вялікімі шыбамі і прыгажэйшыя. У Беластоцкім павеце ёсць ужо тры такія кіёскі: адзін у Супраслі і два ў Заблудаве.

На Сакольшчыне ў 1973 годзе быў адкрыты новы клуб у Вострай Гары. Некаторыя клубы атрымалі па два пакойчыкі. Напрыклад, клубы „Рух“ у Янаўшчыне, Крукоўшчыне, Чцянцы і Трафімаўцах былі перанесены ў больш адпаведныя будынкі. У тым жа годзе прадпрыемства „Рух“ у Саколцы замяніла на прыгажэйшыя палавіну сваіх кіёскаў у горадзе.

У Дуброўскім павеце клубы „Рух“ атрымалі жыхары вёсак Стоцк і Кудраўка.

На Гайнаўшчыне адкрыты новы клуб „Рух“ у вёсцы Скупава. Быў таксама перанесены клуб „Рух“ з вёскі Асоўка ў Макаўку. Цяпер на Гайнаўшчыне існуе 26 клубаў „Рух“.

Варта дадаць, што ў мінулым годзе многія клубы „Рух“ атрымалі новыя, палітураваныя столікі, новыя крэслы і іншае клубнае абсталяванне. (ця)

## ЗІМА ВЯСКОВЫХ ДЗЯЦЕЙ

У зборных гмінных школах у Беластоцкім ваяводстве навучаецца 6 600 дзяцей, якім да школы больш 4 кіламетраў. Даязджаюць яны ў школу аўтобусамі, спецыяльнымі прычэпамі, прымацаванымі да трактара, санкамі, веласіпедамі, або на лыжах. Цяпер, у зімовы перыяд, звернута асаблівая ўвага на расчышчванне дарог у школу. У першую чаргу.

Цяпер найбольш надзейным сродкам транспарту з'яўляюцца крытыя трактарныя прычэпы, якімі можна вазіць дзяцей па менш ці больш засыпаных снегам дарогах. Будаваць такія прычэпы ўзяліся некаторыя ПОМ-ы Цяпер даязджаюць у школу 18 такімі прычэпамі вучні з Сакольскага павету. Не менш ёсць іх у Беластоцкім павеце. Здаралася аднак, што вучні некаторых сакольскіх школ не ездзілі ў школу, калі ўсе дарогі былі занесены глыбокім снегам. Аказваецца, не ўсе дырэктары школ належна паклапаціліся пра транспарт для перавозу школьнікаў. А гэта ўжо дрэнна.

Былі зроблены таксама крокі ў арганізаванні кватэр для вучняў старэйшых класаў. І так, вучні з вёскі Тэрэміскі Гайнаўскага павету будуць паселены ў школьнай турыстычнай базе ў Белавежы. А даязджаючыя вучні змогуць рацыянальна выкарыстоўваць вольны час пасля школьных заняткаў у святліцах. Для іх арганізавана таксама харчаванне. Для прыкладу, у Сакольскім павеце на ўсіх 77 школ харчаванне арганізавала 69 школ з агульным лікам 5 922 вучняў, зн. 69% усёй колькасці вучняў. Найлепш арганізавана харчаванне ў школах у Янаве, Гаркавічах, Кнышэвічах, Вострай Гары, Паўлавічах, Крушынянах, Кузніцы, Ліпіне, Сідэрцы і ў самой Саколцы. У іх харчаваннем ахоплены ўсе вучні. У Паўлавічах і Саколцы вучні атрымліваюць нават гарачы суп. Шкада толькі, што сакольскія школьнікі найбольш п'юць чаю і збожжавай кавы (3 125 асоб). Малака, какавы або кавы, забеленай малаком, на многа менш. Суп атрымлівае толькі 105 асоб. На нашу думку, прапорцыі гэтыя варта было б змяніць на карысць малочных напіткаў і супу.

**Я. Ц.**



*У гміннай школе ў Супраслі Беластоцкага павету ўсе вучні атрымліваюць цёплы суп. Харчаванне тут добрае, паўнацэннае...*

Пачатак на стар. 1




годзе я забыў аб прапанове выдавецтва. Прыпомніў яе ў 1971 г. Пайшоў у выдавецтва. Сустрэў там вельмі ветлівага і разумнага чалавека — рэдактар Ядвігу Бандроўскую і выказаў гатоўнасць прыступіць да работы. Яна згадзілася. Ну і пачалося. Другая прычына, або як ты гаворыш, дух, мае суб'ектыўны, эмацыянальны характар. Беларуская казка была найпрыгажэйшым спадарожнікам майго дзяцінства. Многія з казак, якія сабраў Федароўскі, пачуў я ў роднай вёсцы. Хацелася мне, каб спадарожнік майго дзяцінства — беларуская казка дайшоў і да польскага чытача.

**— Народная творчасць чэрпае сокі з жыцця. У якой ступені „Чортавая скрыпка“ адлюстроўвае быт нашых прадзедаў?**



— На казку трэба глядзець двояка. Як ілюстрацыю народнага быту і як на ўяўленні нашых продкаў аб жыцці, аб будучыні, аб маралі, альтруізме, эгаізме, дабру і злу, жыцці, смерці, замагільным свеце і г.д. Значыць, казка ілюстравала і матэрыяльны, і духоўны бакі жыцця беларуса. У рамках казкі замкнулася жыццёвая філасофія нашых продкаў. Рэальнае „даследаванне“ рэчаіснасці і перш за ўсё інтуіцыйная інтэрпрэтацыя навакольнага свету ляглі ў аснову беларускай казкі. Не можа быць сумненняў у тым, што стваральнікі беларускіх казак былі патэнцыяльнымі пісьменнікамі. Можна зайздросціць шырыні фантазіі, выдумкі, фікцыі твораў беларускіх казак. Прынамсі я ім зайздрошчу.

**— А жаночыя тыпы? Лянівыя, неахайныя, няверныя, апанаваныя адной думкай: адправіць мужа на той свет. Жах!**

— Я ўжо сказаў у прадмове да „Чортавай скрыпкі“, што, праўдападобна, стваральнікамі беларускіх казак былі ў большасці мужчыны. Вынікае гэта з таго факту, што ўсе грахі свету прыпісваюцца жанчынам. Нават такая спецыфічная мужчынская рыса, як схільнасць да п'янства, ў казках звязана найчасцей з постацямі жанчын. З гэтага вынікае просты вывад: мы, мужчыны, не адзначаемся аб'ектывізмам. Гэты вывад непрыемны. Другі, прыямнейшы: мы, мужчыны, а не жанчыны, валодаем літаратурнымі здольнасцямі. Не значыць гэта, зразумела, што жанчыны не стваралі казак. Быць можа, ёсць і другая прычына антыжаночай тэндэнцыі ў беларускай казцы. У штодзённым жыцці, у размовах і спрэчках жанчына заўсёды перагаворыць мужчыну. Праігрываючы слоўныя паядынкі, мужчыны выігрывалі ў творчасці. Прымушаныя маўчаць, стваралі казкі і ананімна атакавалі жаночы род, прыпісваючы яму ўсе грахі свету. Зразумела, самі не верылі ў тое, што гаварылі. І таму на антыжаночы элемент у беларускай казцы не трэба глядзець даслоўна. Напэўна, беларускія жанчыны не былі і не ёсць такімі, як гэта бачым у казках. А зрэшты, хто ведае.

**— З „Чортавай скрыпкі“ можна зрабіць і такі вывад: беларусы — жорсткі народ, столькі тут смерці.**

— Такі вывад быў бы фальшывы. Асноўным элементам кожнай казачнай фабулы з'яўляецца дзеянне, рух, імкненне, змаганне. Дзе ёсць змаганне, там мусіць быць цвёрдасць і рашучасць. А што датычыць смерці, дык ва ўсіх літаратурах свету і ва ўсіх філасофскіх сістэмах і роздумах кожнага чалавека займае яна істотную пазіцыю. Ці ж гэта не парадокс, што чалавек родзіцца на тое, каб памерці? Можам мець найбольш вясёлы характар, можам быць прыхільнікамі найбольш аптымістычных філасоф-

 



## САКОЛКА РАЗБУДОЎВАЕЦЦА

Павятовае мястэчка Саколка з кожным годам прыгажэе. Новае прадпрыемства будаўнічай сталяркі ліквідавала недахоп працы ў Саколцы. Цяпер нават неабходна ашчадна гаспадарыць рабочай сілай. Горад хутка разбудоўваецца. Прыбывае тут жылых блокаў. Яшчэ зусім нядаўна не было на вуліцы Длугай такіх вялікіх і добрых блокаў, як той, што на здымку.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскага**

## Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

### ЛЮБОЎНАЯ




*Ой, хадзіла Машанька, ой, па садочку,*
*Ой!*
*Накалола ножэньку на кусточку.*
*— Баліць, баліць ножэнька, ой, ды ні больно,*
*Ой!*
*Любіў парань дзеўчыноньку да й нідоўго.*
*Забіраюць парэнёчка, ой, у салдаты,*
*Ой!*
*Забыласа дзеўчыноньна папытаці:*
*— Ой, ці замуж мне ісці, ой, чы гуляці?*
*Ой!*
*Ой, ці замуж мне ісці, чы гуляці?*
*— Гуляй, гуляй, дзеўчынонька, ой, як гуляла,*
*Ой!*
*Тапчы, тапчы чаравічкі, як таптала.*
*Сцялі, сцялі ты пасцель белу, ой, як ты слала,*
*Ой!*
*Ні кажы ты хлопцам праўду, як казала.*
*Яны тваю пасцель белу, ой, перакінуць,*
***Ой!***
*Яны цібе любіць будуць і пакінуць!*

**Ад Галены Тучынскай, 1923 года нараджэння, вёска Мастаўляны Беластоцкага павету, запісаў 25 кастрычніка 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.**




## Янка ў капелюшы

Вы можа, сябры, нашага Янку і ведаеце. Прыкметны ён, хоць можа ў горадзе так у вочы і не кідаецца. І вось здарылася з ім гісторыя ўсёй вёсцы на смех, а яму самому хоць ты, сеўшы, плач.

Пад Каляды гэта было. Параспускалі нашых „студэнтаў“ па хатах — на канікулы. З'язджаюцца хто адкуль. Запрог бацька Гнядую ў сані — Янку да аўтобуса сустракаць паехаў. Прывозіць... і каб цябе! Ён ці не ён? Распазнаць не можам. Нос кірпаты, той што быў, здаецца. А вось адзежа... Усе мы вочы вырачылі: ну франт франтам!

Капялюш гэтакі, ведаеце, з шырокімі палямі, нагавіцы, бы спадніца, „швэды“, кажуць, называюцца, ад чаравікаў бляск ідзе, пінжак з разрэзам ззаду, а гальштук ядавіта-зялёны на ўсе грудзі... Ну, усяго не раскажаш! Шчыра гаворачы, чаму, выглядаў нават прыгожа! Старэйшым, вядома, непрывычна, а вось маладыя, якія за модай сочаць, так і цмокалі зайздрасна, на яго глянуўшы.

Ну, яго, зразумела, адразу за стол — накарміць з дарогі. Пасля, як у нас прынята, пайшоў па вёсцы пахадзіць — сябе паказаць, знаёмкаў праведаць. Бяда ажно на другі дзень пачалася.

Свята святам, а адразу пасля снедання бацька кажа, што жывёле падаваць трэба.

— Пераапраніся, Янук, з майго там што накінь, пакажы, што не зусім „спанеў“ яшчэ ў тым горадзе.

— А чаму ж, татку, — той на тое. — Зараз я. Толькі пераапранупца навошта?! Я і так дам рады. — І гэтак, ведаеце, пяшчотна самога сябе агледзеў. Ну, нічым певень перад курамі, крылы растапырыўшы.

Колькі яму ні тлумачылі, а ён сваё. Так і папёр у хлеў ва ўсёй красе.

Ахапку сена набраўшы, да кароў сунуўся спачатку. А гальштук той, яснازялёны, як змяя, каля шыі так і круціцца. Лацятая лыпнула здзіўленым вокам: гэтай парою ды свежая зяляніна? Ну як не паласавацца. Высалапіла шурпаты язык, шамкнула ляпай, і паўгальштука з ходу праглынула. І далей каўтае. Хлапца беднага за шыю ў свой бок цягне, ледзь не задушыць. Той у дугу сагнуўся, запёрся нагамі. Толькі выпучаны азадак з разрэзам пінджака тырчыць.

У куце какетліва забляялі авечкі. Баран Мацей абег статак сваіх падапечных і з пагрозаю зірнуў на невядомую з'яву. Так спакойна, зацішна было, здаецца, у хлеўчыку, а тут з'явіўся створ нейкі, выразна рагаты, і яго паненак маніць. Ну, як сцярпець? Пахіліў масіўны лоб, падагнуў калені, куляю наперад скочыў і з усяго разгону ў выпяленую кругляціну рагамі пальнуў.

Ну, браткі, чаго не казалі б пра „эляну“, а матэрыял, што трэба. Вытрымалі, ведаеце, порткі, па шве толькі разышліся. Кінула наперад Янку. Лацятую, рукамі за шыю абхапіўшы, пацалаваў проста ў морду, з разгону. Тузануўся назад, гальштук у зубах ёй пакінуў, і ў дзверы. На босую нагу, бо модныя чаравікі ў гнаі застраглі.

— Ну і трык жа ў вас, бацьку, — кажа. — У зад, здаецца, трэснуў, а зубы ў роце хадуном захадзілі.

Два дні на вуліцу носа не высунуў — стыдаўся. — Бацькавы старыя нагавіцы напяліць, кашулю абы-якую, надзьмецца і сядзіць цэлы дзень на ляжайцы, як пень які.

Невядома што было б, не будзь Марысі, дачкі суседавай. Ну, і хітрая дзеўка. Цэлую раніцу з маткаю нашаю ды сёстрамі па кутах шушукалася. То да сябе пабяжыць, то ізноў да нас, то яшчэ кудысь. Падвечар заходзіць. А ў клубе ўжо граць пачалі. Забава быць мае. Заходзіць і адразу да Янкі. А сама прыгожая, прыгожая! Не гаворыць, а кацянём мурлыкае. Ножкі стрункамі, язычок — мёду банкаю. А Ясеньку, а міленькі, а ўстань любенькі, а пойдзем. Пакуль агледзеліся, ужо нашага героя сцягнула з ляжайкі, у пакой валачэ за руку. А там ужо нагавіцы ягоныя, „швэды“ тыя, зашытыя, папрасаваныя, на чаравіках бляск, што ўсе лампачкі адбіваюцца, кашуля белая нарыхтавана. Гальштук толькі іншы. Лацятая, як ужо што каўтне, — з горла не выдзярэш.

І, паверце, хоць мяўся Янка, аднекваўся, то ўламала яго ўсё-ткі. Не толькі што на танцы тыя пайшоў, а ўсю рэшту канікулаў кроку не адступіў ад Марысі. Ну зусім, як тое ягня за авечкаю, за ёю бегаў. Солі, здаецца, на далонь насыпала б, то лізаў бы. Чуў я, як бацькі між сабой гаварылі, што вяселле пэўна спраўляць давядзецца. Бачылі, бяда якая?

**Ларс**



## ПАРА ПАДКОЎВАЦЬ „НА ВОСТРА“

Усё цяжэй цяпер знайсці каваля, які патрапіць добра падкаваць каня. А майстры кажуць, што кожнага каня трэба перакоўваць не радзей як раз на два месяцы. Цяпер зіма, слізкія дарогі. Коней трэба каваць „на востра“.

У Гарадку Беластоцкага павету трапілі мы на зборышча сялянскіх фурманак ля кузні Анатоля Хомчыка. Мае ён кузню, якая яшчэ памятае царскія часы. У сям'і гарадоцкіх Хомчыкаў кавальскае майстэрства мае доўгую традыцыю — ад дзеда-прадзеда. Усе былі добрымі рамеснікамі. Таму ля кузні Анатоля Хомчыка сустрэлі мы нават сялян з далёкіх вёсак вялікай гарадоцкай акругі. На здымку: селянін Ян Карповіч з вёскі Дзернякова і каваль Анатоль Хомчык са сваім памочнікам.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**

скіх сістэм, але і так прывід смерці будзе паяўляцца ў нашых роздумах. Зрэшты, я не бачу ні жорсткасці, ні песімізму ў трактоўцы смерці беларусам. Наадварот, беларус трактаваў яе амаль аптымістычна. У казках заўсёды яна прадстаўлена як нешта непазбежнае і... справядлівае. Не ведаю, ці прыпамінаеш казку, у якой расказваецца аб тым, як селянін не падзяліўся знойдзенай каўбасой з Богам, бо ён ва ўяўленні селяніна несправядлівы, але падзяліўся са смерцю, бо яна аднолькава ўсіх трактуе.

**— А гаворка нашых продкаў? Ці не замнога ў ёй моцных слоўцаў? (Маю на ўвазе кніжку і яе патэнцыяльных чытачоў).**

— Перакладаючы беларускі тэкст, я не мог кіравацца патрэбамі „патэнцыяльных чытачоў“. Калі б кіравацца такімі мэтамі, дык трэба было б зрабіць дзесяткі перакладаў. Адзін для цвёрдых мужчын, другі — для слабых жанчын, трэці — для „благародных дзявіц“, чацверты — для дзетак і г.д. У такіх тэкстах было б усё, але не было б аўтэнтычнага зместу арыгіналу. Я кіраваўся толькі адным: вернасцю з арыгіналам. Я не папраўляў народу, бо ніхто не мог бы даць мне на гэта права. Зрэшты, вульгарнасць слова ў „Чортавай скрыпцы“ вельмі адносная. Усе паняцці і ўсе словы, якія выступаюць у тэкстах, вядомы дзіцяці, якое ўмее чытаць і якое прабывае па-за дамашнім кругам, якое кантактуецца з асяроддзем. Дзіця не даведаецца з кніжкі такіх слоў, якіх ведаць не павінна. Ёсць у кніжцы тэрміны, акрэсліваючыя пэўныя элементарныя фізіялагічныя працэсы, і гэта ўсё. Я не бачу ў гэтым трагедыі.

**— Пасля „Чортавай скрыпкі“ ведаю, адкуль у Багдановіча з'явіліся лесуны... Чэрці, чэрці, чэрці...**

— Спецыфіка жыцця Багдановіча заключалася ў тым, што ён усё жыццё правёў па-за межамі Беларусі. З Беларуссю знаёміўся на падставе апавяданняў членаў сям'і, навуковай літаратуры і перш за ўсё з фальклорных зборнікаў Раманава, Шэйна і Федароўскага. Кожны сапраўдны паэт схільны да містыкі. Праявілася гэта і ў Багдановіча. Аднак, не містыка — галоўная з'ява ў Багдановіча. Колькі ж ён напісаў вершаў, утрыманых у народным духу, а звязаных з каханнем, працай, роздумам над жыццём! Праўдай аднак з'яўляецца тое, што выразна пад уплывам народнай казкі стварыў ён вершы аб вадзеніках, лесавіках, падвеях. Але і гэтыя вершы не змрочныя, а пагодныя. Народ ствараў розныя пачвары, але не баяўся іх, не палохаўся. Гэтае ж бачым у Багдановіча, які любіў сваіх лесуноў і вадзенікоў. Былі яны для пісьменніка неадлучнай часткай Беларусі, а ўсё, што было з ёю звязана, лічыў пісьменнік святым. Фальклору і выступаючых у ім герояў не можам дзяліць на добрых і дрэнных, разумных і дурных. Трэба прыняць яго як цэласць. Прыняць і адобрыць.

**— Аднак не аднымі нячыстымі сіламі багата беларуская казка. Ёсць у ёй і светлыя імкненні.**

— Наадварот. Светлае імкненне — гэта і ёсць казка. Нячыстыя сілы — гэта толькі фрагментарныя з'явы ў ёй. Перамога дабра над злом з'яўляецца галоўнай ідэяй кожнай казкі. Прыгажосць перамагае брыдоту, альтруізм перамагае эгаізм, вернасць перамагае здраду, ласка перамагае злосць, каханне перамагае нянавісць. У гэтым светлым імкненні ўся сутнасць беларускай казкі. Казка памагае нам жыць у суровым свеце, бо казка — гэта часта трактат не аб тым, што ёсць у жыцці, а толькі аб тым, што павінна ў ім быць. Казка прыпамінае нам перыяд дзяцінства, далёкае юнацтва, скрып жураўля над студняй, споўненыя і няспоўненыя надзеі. Казка — гэта святло, а не змрочнасць.

**— Каб ты меў магічную табакерку (шэпча нячысцік), што б зрабіў?**

— Зрабіў бы тое, што робіцца ва ўсіх казках. Зрабіў бы, каб дабро назаўсёды перамагло зло.

Гутарыў **Г. Валкавыцкі**

Пачатак на стар. 1

## ТОСТ

роўню ў краіне і складала 14 тысяч злотых у год. У 1990 годзе яна павялічыцца да 43 тысяч злотых у год.

— 43 тысячы ў год? — скрывіўся швагер. — Гэта ж не больш чым тры з палавінай тысячы ў месяц.

На жаль, тут я не мог запярэчыць. Нават за 15 гадоў мы на Беласточчыне не дараўнаем яшчэ да сярэдняга ўзроўню даходаў насельніцтва ў краіне. Адставаць будзем на нейкіх 5—6 працэнтаў.

Што ж, нялёгка адрабляць шматвяковую адсталасць, нялёгка даганяць багацейшых. Я запрапанаваў чарговы тост. У гэтым я за швагра мацнейшы.

**Максім Нурэцкі**



 



*Павел Бачынскі — немец.*



*Лявон Харытанюк — бацька і Георгій Аляксеюк — Вавіла (канчатковая сцэна).*

## У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ

# „Ноч няволі"

Драматычны калектыў у Паўлах Беластоцкага павету славіцца не толькі добрым акцёрскім выканаўствам, але і ўмелай падборкай рэпертуару. Перад кожным аглядам пытаем: што пакажуць Паўлы? Яны падаюць тон у нашай тэатральнай самадзейнасці. У мінулым годзе вялікім поспехам карысталася «Ноч няволі» Барыса Сачанкі.

З чым выступяць Паўлы ў надыходзячым аглядзе? Пакуль таямніца. Прапануем тады ўвазе чытачоў фотарэпартаж **Аляксея Карпюка** з «Ночы няволі», які наш фотарэпарцёр зрабіў сёлета ў Паўлах.





*Валя Мароз у ролі маці.*



*Галена Ануфрыюк — Марылька і Васіль Андрэюк — Ромусь.*

*Зала мясцовай святліцы не магла змясціць усіх людзей, што хацелі паглядзець „Ноч няволі".*

## ДЗІЎНЫЯ ДЗІВЫ

# Горад, які вандруе праз стагоддзі

У паўднёва-ўсходняй частцы Маўрытаніі, на самай граніцы з Малі ляжыць горад Уалата. Гэтаму гораду каля тысячы гадоў. Шэсць стагоддзяў назад за Уалата змагаліся імперыі Ганы і Малі, імкнучыся авалодаць важнейшым у той час стратэгічным пунктам, да якога сыходзіліся караванныя сцежкі з усіх бакоў свету.

Сёння ва Уалата можна дабрацца толькі з поўдня. На поўнач ад горада на многія сотні кіламетраў цягнуцца пяскі, без калодзежаў, без сцежак. Ужо даўно Сахара вядзе наступ на поўдзень, высушваючы крыніцы, выпальваючы аазісы, ператвараючы ў руіны старажытныя гарады. Але ва Уалата, які стаў аванпостам на шляху ў наступаючых пяскоў, жыццё не замірае. Сумнымі ўспамінамі велічнага мінулага жыве гэты горад, які ўпарта змагаецца з пустыняй і адстаяў у гэтай барацьбе права на існаванне. Не літасць і спачуванне, а павагу выклікаюць старадаўнія руіны яго будынкаў.

...Калі пясок пачынае заносіць ускраінныя дамы, людзі самі пакідаюць іх і пачынаюць будаваць новае жыллё на процілеглай ускраіне Уалата, далей ад пустыні. Мінаюць дзесяцігоддзі. Вецер ператварае стары Уалата ў руіны, потым іх паступова пачынаюць заносіць пяскі. І калі на іх месцы вырастае пясчаны ўзгорак, людзі вяртаюцца на ранейшае месца, будуючы дамы на гэтым узгорку. Гэты цыкл паўтараецца прыблізна адзін раз у стагоддзе, і паданні гавораць, што пад цяперашнімі руінамі пахавана сем такіх жа гарадоў. І кожны раз, выграўшы чарговую бітву з пустыняй, людзі грунтоўна адбудоўваюць новы горад, любоўна перанёсшы на дзверы сваіх дамоў мудрагелістыя арнаменты, малюнак якіх быў створаны шмат стагоддзяў назад. Уалата працягвае жыць насуперак пустыні.

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

**Пытанне:** Трое наследнікаў карыстаюцца атрыманай у спадчыне нерухомай маёмасцю, якая знаходзіцца на прадмесці горада. Нерухомая маёмасць складаецца з пляца з будынкамі. Прадбачваецца, што ў бліжэйшыя гады пляц гэты, згодна з планам разбудовы горада, будзе экспрапрыіраваны. Наследнікі хочуць падзяліць пляц і будынкі так, каб пры экспрапрыіраванні не было сумнення, хто з іх і за што атрымае кампенсацыю. Аднак падзяліць пляц на тры часткі немагчыма. Ці можна падзяліць толькі будынкі, а пляц пакінуць супольнай уласнасцю?

**Адказ:** Падзел будынкаў без падзелу пляца можа мець значэнне толькі для саміх наследнікаў, калі паміж імі ўзнікаюць спрэчкі ў выкарыстоўванні будынкаў. Пры гэткім падзеле асобы, якім будзе прыдзелены будынак, уласнасці на яго не атрымаюць. Усе будынкі пасля гэткага падзелу далей застануцца супольнай уласнасцю ўсіх наследнікаў. Падзел нерухомай маёмасці так, каб кожны з наследнікаў атрымаў паасобныя будынкі на выключную ўласнасць немагчымы. Падзел нерухомай маёмасці можа быць праведзены праз натарыуса, калі бакі згаджаюцца са спосабам падзелу, або праз суд, калі гэткай згоды няма. У даным выпадку фізічны падзел пляца немагчымы, бо на гэта не згодзяцца гарадскія ўлады, паколькі пляц будзе экспрапрыіраваны. Таму і натарыус і суд прапанову аб падзеле вырашаць адмоўна.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### НОВЫ САМАЛЁТ

У Савецкім Саюзе ідзе падрыхтоўка да вырабу новага самалёта — „Іл-86", які будзе забіраць 350 пасажыраў або 40 тон багажу. Хуткасць яго — 950 кіламетраў у гадзіну.

(ті)




Глебаў устаў, з хрустам пацягнуўся і, накульгваючы, падышоў да акна. Акно было маленькае, амаль ля самай падлогі, і капітану трэба было сагнуцца, каб паглядзець на падворак. Там у акружэнні салдат, пыхкаючы люлькай, стаяў лейтэнант Лузан — намеснік Глебава па палітчасці. Ён нешта расказваў смешнае, і салдаты рагаталі. Вясёлы чалавек быў Лузан, з ім не засумуеш.

Глебаў штурхануў палавінкі акна, паклікаў свайго намесніка.

Лузан быў цалкам цывільным чалавекам. Да вайны ён настаўнічаў на Палтаўшчыне, выкладаў гісторыю і менш за ўсё збіраўся стаць ваенным.

— Слухаю вас, таварыш капітан, — сказаў, паяўляючыся ў дзвярах, Лузан.

Глебаў паблажліва ставіўся да ваенных здольнасцей свайго намесніка, затое цаніў ягоны жыццёвы вопыт, веданне людзей, уменне знаходзіць з імі агульную мову. Лузан быў начытаным чалавекам, даволі прыстойна размаўляў па-нямецку, а з прыходам у Польшчу хутка навучыўся і па-польску.

Начальнік заставы працягнуў Лузану шыфроўку і, пакуль той чытаў, моўчкі хадзіў па пакоі, ад акна да дзвярэй. Лузан, прачытаўшы арыентыроўку, некалькі секунд назіраў за начальнікам, любуючыся яго бездакорнай выпраўкай. Гімнасцёрка сядзела на яго ладнай фігуры неяк асабліва ёмка. Шырокі афіцэрскі даваенны рамень з зоркай на спражцы быў зацягнуты на тонкай таліі роўна настолькі, каб кабура з пісталетам не адцягвала яго ўніз. Галаву Глебаў трымаў высока, плечы разведзенымі і заўсёды глядзеў проста ў вочы.

Падсеўшы нарэшце да стала, капітан закурыў трафейную цыгарэту і спытаў:

— Што думае камісар?

Лузану падабалася, калі начальнік называў яго камісарам, і Глебаў гэта ведаў. Між іншым, ён і сам аддаваў перавагу гэтаму звонкаму, акрыленаму рамантыкай рэвалюцыі слову перад будзённым і нейкім канцылярскім словам „зампаліт".

Лузан крануў свае вусы:

— Трэба шукаць гэтыя лісточкі, таварыш капітан. У лесе яны сядзець не будуць, у іх справы. Ды і ночы халодныя — не прасядзіш без агеньчыка. А агеньчык паліць небяспечна. На хутарах, у сёлах трэба шукаць. На шашы не пашкодзіла б кантрольна-прапускны пункт паставіць. А мосцік вось гэты, — Лузан ткнуў алоўкам у карту, — трэба ўзяць пад нагляд, каб яго ў паветра не пусцілі...

— Мост ахоўваецца, Пётр Пятровіч.

— Ну і што з таго? Ды і якая там ахова — дзяўчаткі-рэгуліроўшчыцы, вартавы ў будцы.

— Добра, — пагадзіўся Глебаў, задаволены тым, што ягонае рашэнне цалкам супадае з тым, што прапанаваў Лузан. — Прынята, Пётр Пятровіч.

У двары заставы пачулася вуркатанне матора, скрыпнулі тармазы. Глебаў зірнуў у акно.

— „Віліс" начальніка палітаддзела, — сказаў ён, разгладжваючы пад рамянём гімнасцёрку, і раптам кінуўся з хаты ў двор.

Лузан, нічога не разумеючы, паспяшаўся за Глебавым.

Начальнік палітаддзела палкоўнік Шпакаў стаяў каля машыны, моўчкі назіраючы, як салдаты выцягваюць з кузава забітага хлопца ў паўвайсковым адзенні.

— Што здарылася, таварыш палкоўнік? — устрывожана спытаў Лузан, забыўшыся ад хвалявання павітацца з начальнікам.

— Добры дзень, Пётр Пятровіч, — палкоўнік працягнуў левую руку, — даруйце, правую крыху папсавалі. Вось гэты і яго спадручныя.

Ён кіўнуў у бок забітага, які ляжаў на зямлі.

Лузан толькі цяпер заўважыў пацямнелы ад крыві бінт на руцэ палкоўніка. Моцная, каржакаватая постаць Шпакава як заўсёды пакідала ўражанне ўпэўненасці і сілы, але твар асунуўся і паблядне́ў, глыбокія складкі ля роту сталі яшчэ больш рэзкімі і глыбокімі. Напэўна, Шпакаў страціў многа крыві.

— Вам трэба ў шпіталь, таварыш палкоўнік, — сказаў Лузан.

— Потым, Пётр Пятровіч, спачатку справа. Я прыехаў паглядзець, як вы тут ваюеце, пагаварыць з людзьмі. Ну і з гэтым цяпер трэба разабрацца... Я сказаў Глебаву, каб арганізаваў апазнанне забітага жыхарамі Кудароўшчыны, а вы пагаварыце з імі, растлумачце сітуацыю. Скажыце, што б'ем фашыстаў, Польшчу вызваляем, а вось гэтыя паршыўцы страляюць у нас. Спытайце, ці не ведаюць яны забітага, а калі ведаюць, высветліце падрабязна, хто ён і што ён. Зразумела?

— Так точна, таварыш палкоўнік!

— А салдатаў маіх і шафёра накарміце, ім сёння добра давялося папрацаваць. Ды і мне таксама.

— Зразумела, таварыш палкоўнік!

Лузан правёў Шпакава ў хату, выклікаў кухара.

— Краўцоў, абед па вышэйшаму разраду. Мігам!

**(Працяг будзе)**

